# ПАГОНЯ

Чацвер
7 снежня 2000 г.
№ 46 (493)
Кошт 74 рубля


## На пікеце раздавалі прэзерватывы

**У нядзелю, 3 снежня, гарадзенскі Малады Фронт разам з Маладой Грамадой ладзілі пікет, прысвечаны Сусветнаму Дню барацьбы са СНІДам (адзначаецца 1 снежня). Акцыя рыхтуецца ўжо другі год. Праўда, летась улады забаранілі пікет, і Малады Фронт вырашыў нічога не ладзіць. Гэтым разам пікет быў дазволены.**

З 12 да 13 гадзін ля Дома сувязі хлопцы і дзяўчаты трымалі антыСНІДаўскія плакаты, раздавалі ўлёткі, брашуры і прэзерватывы. Некаторыя матэрыялы былі падрыхтаваныя Маладым Фронтам самастойна, а частка была ўзятая ў абласным цэнтры прафілактыкі СНІДу. Пасля нашумелай акцыі 12 лістапада міліцыянты паводзілі сябе, на дзіва, ветліва і спакойна. Пікет прайшоў без эксцэсаў.

**Алеся Сідлярэвіч**

## Горадня – цэнтар філятэлістаў

**У Горадні з 2-га па 9-га сьнежня адбываецца II Нацыянальная філятэлістычная выстава «Беларусь на рубяжы стагоддзяў».**

Гэтае сьвяточнае мерапрыемства будзе адбывацца ў горадзе на працягу тыдня. Распачалося яно 2 сьнежня адкрыцьцём і прадстаўленьнем калекцыяў вядомых філятэлістаў ня толькі зь Беларусі, але і з Украіны, Польшчы, Расеі.

У склад журы ўвайшлі знаныя зьбіральнікі Леў Коласаў зь Менску, Генадзь Обухаў, Віктар Грабштэйн, Сяржук Бяляўскі з Горадні ды Аляксандар Сцяпанчанка зь Беластоку. Аргкамітэт выставы быў даволі прадстаўнічым: дырэктарка Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалягічнага музэя, рэдактар «Вечернего Гродно» ды іншыя.

Падчас працы выставы праведзена шмат цікавых мерапрыемстваў. Гэта конкурс дзіцячага малюнку і конная пошта, якая развозіла лісты па гораду. А 5 сьнежня адбылося адмысловае сьпецгашэньне.

Асноўныя мерапрыемствы пройдуць у сэнатарскай зале Гарадзенскага гісторыка-археалягічнага музэя.

**Андрэй Мялешка**

## Новае жыццё «Тызенгаўза»

**У першы дзень зімы горад Гродна стаў багацей яшчэ на адну прыватную галерэю.**

Нарэшце, пасля перапынку ў рабоце на амаль як паўгода, адчынілася слаўная галерэя «Тызенгаўза». Дырэктаркай «Тызенгаўза» стала прадпрымальніца Галіна Сарока.

Да 1 студзеня ў «Тызенгаўза» гарадзенцаў чакае рэдкае багацце мастацтва і штучных каляндных сюрпрызаў. Разнастайная кампазіцыя жывапісу гарадзенскіх мастакоў Ніны Чураба, Наталлі Бедзюх, Ігара Далькевіча, Уладзіміра Кіслага прадстаўляюць гарадскі пейзаж і лірычную экспрэсію вобразаў сучаснага героя. Дзіву даемся, якой выяўленчай выразнасці дасягаюць майстрыхі роспісу па дрэву і вышывальшчыцы.

Падчас імпрэзы адкрыцця галерэі было шмат сюрпрызаў. Юрый Крупіца, дырэктар фірмы «2 К і К» прэзентаваў галерэі электрычны гарбатнік, каб было як частаваць гасцей. Студэнт гарадзенскага музвучылішча Раман Кашпулотаў цудоўна граў гітарныя п'есы. А вось былы мастацкі кіраўнік «Тызенгаўза» Аляксандр Ларыёнаў, што «трымаў» галерэю тры гады, так і не сказаў свайго слова на дарогу. У прыватнай размове прызнаўся толькі, што надта заняты новым галерэйным праектам.

А новая галерэя «Тызенгаўза» працуе з 10 да 18 гадзін, апроч нядзелі. З першага студзеня адкрыецца новая выстава.

**Алена Сіневіч**




**7, 8 снежня** - воблачна, з праясненнямі, без ападкаў, месцамі - туман, вецер паўднёвы, 4-9 м/с. Тэмпература паветра **7, 8 снежня** - уначы -2...+3, удзень +1...+6.

# Святлана Крук – з найпрыгажэйшай сотні

**У панядзелак наша прыгажуня Святлана Крук вярнулася ў Гродна з лонданскага конкурса «Міс Свету», у якім узялі ўдзел 95 прыгажунь свету. У сераду раніцай адбылася прэс-канферэнцыя ў Доме быту.**

***- Ці адчуваеш ты праблемы з адаптацыяй пасля замежжа ў слотную беларускую восень?***

- Не, я вельмі лёгка прывыкаю, нармальна езджу ў грамадскім транспарце, хаджу на вучобу.

***- Дзе табе спадабалася больш: на Мальдзівах ці ў Лондане?***

- На Мальдзіўскіх астравах я ўбачыла столькі экзотыкі, колькі, напэўна, няма ні ў якім іншым месцы свету. Два тыдні мы жылі на астравах у хацінах на палях (сваях) сярод акіяна. Рэжым дня выглядаў наступным чынам: пад'ём - у палову шостай раніцы, у 7.00 - сняданак, прычым мы павінны былі быць ужо прычасаныя, накрашаныя, апранутыя. Потым увесь дзень - здымкі на тэлебачанні. Адзін раз была вечарынка на пляжы. Купацца ў акіяне нам не дазвалялі. Ды мы і самі асцерагаліся, бо ў вадзе было шмат акулаў ды іншай экзатычнай жыўнасці. Цікава, што ўвесь абслугоўваючы персанал на Мальдзіўскіх астравах - толькі мужчыны. Для турыстаў адна ноч на Мальдзівах каштуе 1000 даляраў. Магчыма, прычына гэтага ў тым, што ўсе 1190 Мальдзіўскіх астравоў праз 30 гадоў паглыне акіян.

***- Ці моцна ты стамлялася ў Лондане падчас падрыхтоўкі да шоу?***

- Увесь наш дзень з сямі раніцы да дванаццаці ночы быў заняты рэпетыцыямі і здымкамі. Так што мы проста не высыпаліся, і для падтрымкі сілаў нам давалі актыватар, нешта накшталт допінгу. Ну і кармілі на розны густ, некаторыя прыгажуні нават папраўіліся.



Святлана прэзентуе сувенір з Паўднёвай Афрыкі

***- Ці адчувала ты падчас конкурсу падтрымку сям'і, сяброў і землякоў?***

- Канешне, асабліва калі ПАГОНЯ прыслала прывітальны факс. Тэлефанавалі сябры. На само шоу прыехалі дырэктар Беларускага інстытута прыгажосці Наталля Траян, а таксама Алеся Шмігельская - «Міс Беларусь». І я, нават, чула адзін мужчынскі голас падчас паказу: «Міс Беларусь!». З беларускай амбасады ніхто не пайшоў. Відаць, з-за дарагавізны (білет каштаваў 200 у.а.).

***- Як праходзіў сам конкурс «Міс Свету-2000»?***

- Шоу цягнулася ўсяго дзве з паловай гадзіны. Было толькі два выхады канкурсантак. Мяркуючы па размовах арганізатараў, шоу правалілася. Усёткі, гэта юбілейны, 50-ы конкурс, да таго ж, праходзіў на мяжы тысячагоддзяў. Аднак не было асаблівага шыку і грандыёзнасці. Вядучы, вядомы ў Амерыцы шоу-мэн, шмат каго шакіраваў сваімі тупымі амерыканскімі жартамі.

***- Ты надта хвалявалася перад абвяшчэннем пераможцаў?***

- Ніякіх асаблівых перажыванняў не было. Справа ў тым, што першую дзесятку мы ведалі яшчэ напярэдадні конкурса. За дзень да яго адбылася сустрэча канкурсантак з журы. Мы мелі троххвілінныя размовы з кожным з дзевяці членаў журы. Яны задавалі нам пытанні, прасілі расказаць пра сябе, сваю краіну, свае планы. Усе, без выключэння, пыталіся, дзе знаходзіцца Беларусь. Тады і былі вызначаныя паўфіналісткі. Аднак - хто стане «Міс Свету-2000» мы не ведалі. І тое, што перамагла «Міс Індыя» - 18-гадовая студэнтка Прыянка Чопра - стала поўнай нечаканасцю. Усе думалі, што пераможа аўстралійка. А яна нават не ўвайшла ў дзесятку. У дзесятку ўвайшлі тыя, пра якіх мы нават не думалі - Міс Кенія, Калумбія, Італія, Чылі, Украіна, Амерыка, Казахстан, Індыя, Турцыя, Уругвай. Пасля заканчэння конкурса сталі вядомымі некаторыя факты, якія, магчыма, паўплывалі на выбар пераможцы. Бацька «Міс Індыі»- адзін з самых багатых людзей краіны, індыйскае тэлебачанне было генеральным спонсарам конкурса. Магчыма, перамагчы прыгажуням з Кеніі і Калумбіі дапамог палітычны аспект.

***- Чым плануеш займацца бліжэйшым часам?***

- Ёсць шмат запрашэнняў на працу за мяжу, якія я лічу галоўным вынікам маіх паездак на конкурсы прыгажосці. У сакавіку паеду ў Балгарыю гасцяваць на конкурсе «Міс Балгарыя». А ўвогуле, гэтай вясною я заканчваю вучобу ва універсітэце, і мне, як і ўсім выпускнікам, давядзецца атрымаць размеркаванне. Пра гэта і падумаць страшна.

***- Як табе спадабаліся лонданцы?***

- Ніяк не спадабаліся: непрыгожыя яны, не ўсміхаюцца зусім. І апранацца не ўмеюць, нашы людзі нашмат прыгажэй і ветлівей.

***- Ці былі падарункі ўдзельніцам конкурса «Міс Свету-2000»?***

- Можа, дзяўчатам, што занялі першыя тры месцы і былі нейкія прэзенты, а ўсім астатнім ніякіх падарункаў не было. Усе ўдзельніцы атрымалі сувенірнае срэбнае кальє - на памяць пра конкурс.

***- Якімі сувенірамі ты прэзентавала Беларусь у Лондане?***

- У Міністэрстве культуры я атрымала распісны самавар, таксама павезла сувенірныя матрошкі, якія і дарыла іншым канкурсанткам. Наогул, кожная привезла нацыянальныя сувеніры са сваёй краіны.

***- Што галоўнае на конкурсе «Міс Свету»: камерцыя ці нейкія чалавечыя стасункі?***

- Канешне, гэта камерцыйная справа. Мы ўвесь час працавалі дзеля тэлетрансляцыяў, у рэкламных паўзах па некалькі хвілінаў даводзілася проста стаяць не сцэне, а потым ізноў усміхацца і дэфіліраваць. Мне не вельмі спадабалася сама арганізацыя. Пасля фіналу нават «дзякуй» ніхто з арганізатараў не сказаў. На заўтра пасля конкурсу ўсім дзяўчатам трэба было да абеду пакінуць гатэль, нягледзячы на тое, што да самалёта заставалася некалькі гадзін. Дзяўчаты нават не развіталіся адна з адной. Проста брралі чамаданы і з'язджалі.

***- Ты лічыш гэты конкурс пікам сваёй кар'еры?***

- Так, гэта ў пэўным сэнсе - вынік. Ёсць прапанова паўдзельнічаць у конкурсе «Міс Сусвету». Паглядзім, ці атрымаецца.

***- Які настрой пасля ўдзелу ў конкурсе такога рангу?***

- Баявы настрой, буду далей вучыцца, працаваць і думаць пра будучыню.

**Гутарыла Алена Сіневіч**





ДЫСКУСІЯ

# Аляксандр Лукашэнка ўжо дакіраваўся. Хто на яго месца?

**ПАГОНЯ працягвае дыскусію на тэму будучых прэзідэнцкіх выбараў. Наша галоўная тэма - як пазбегнуць чарговай памылкі з выбарам лідара нацыі. Сёння размова тычыцца аналізу асобаў магчымых кандыдатаў на выбары прэзідэнта 2001 года.**

Перш за ўсё хачу адзначыць, што прэзідэнта трэба выбіраць для таго, каб ліквідаваць прававы вакуум, які зараз існуе ў Рэспубліцы Беларусь. Па Закону пасада прэзідэнта Рэспублікі Беларусь вакантная, бо тэрмін паўнамоцтваў А.Лукашэнкі скончыўся ў 1999 годзе. Таксама адсутнічаюць легітымныя заканадаўчая і судовая ўлады.

Выбіраўся Лукашэнка законна. Мала таго, што людзі на рэферэндуме падтрымалі ідэю 7-гадовага прэзідэнцкага кіравання (на самой справе пытанне адносна працягу паўнамоцтваў прэзідэнта на рэферэндуме не абмяркоўваўся. - Рэд.). Ну падтрымалі. Але каб гэтая ідэя стала Законам, парламент павінен быў прыняць адпаведныя заканадаўчыя акты - змяніць «Закон аб выбарах прэзідэнта РБ» і правесці паўнавартасныя прэзідэнцкія выбары адпаведна новаму Закону. Гэта не было зроблена і таму зараз ён узурпатар. І таму мы маем, што маем - законным з'яўляецца толькі Вярхоўны Савет 13-га склікання. Гэтае становішча прызнае ўсё сусветнае супольніцтва.

Самым лепшым варыянтам было б, каб Лукашэнка добраахвотна сышоў у адстаўку. Хай перад навагодняй ноччу выступіць па тэлебачанні і аб'явіць пра сваю адстаўку. Толькі гэта дасць яму правы асабістай бяспекі. Можа таксама перад Новым Годам сабраць круглы стол і там усё зрабіць належным чынам (як Ярузельскі ў Польшчы). Іначай... У трэцяе тысячагоддзе шматпакутная Беларусь павінна ўвайсці без Лукашэнкі. Затым Вярхоўны Савет 13-га склікання прызначае дату выбараў і так далей... Усё пайшло-паехала. Гэта паводле найлепшага сцэнару. Але калі нават умовы выбараў будуць горшыя (выбары пад акупацыяй), то ўдзельнічаць абавязкова трэба ў любым выпадку.

Ну, а зараз трохі пра магчымых кандыдатаў

### Зянон Пазьняк

Зянон Пазьняк не падыходзіць. Заўсёды гаворыць тое, што думае. Хоча быць «чыстым» палітыкам. А ў нашых умовах палітыка - брудная справа. У нас шмат савецкіх людзей (ды і мы самі былі ж савецкімі людзьмі). Савецкіх людзей старэйшага веку ўжо не перавыхаваеш. Іх выправіць толькі магіла. Таму кандыдат павінен усведамляць гэта і браць грэх на душу. Для шырокіх колаў савецкіх людзей ён павінен спяваць адпаведныя байкі (ну, скажам, друкавацца ў «Советской Белоруссии» ды падобных газетах з опусамі «О возвращении СССР», казаць ім, што «всё верну сполна», «через год получите зарплату 1000 долларов» і г.д.). У апазіцыйнай жа прэсе (савецкія людзі яе не чытаюць) павінен быць дзелавы тон: шайкі-лейкі разганю, тэлебачанне, радыё, тэлефон, тэлеграф, войска, КГБ, НКВД, гарана, райана, вертыкаль... «ператрахну» і г.д. Палітык павінен быць сам хоць па макаўку ў гаўне (не ў крыві ж, канешне), але трэба каб быў станоўчы вынік ягонай дзейнасці. Калі трэба, то каб ён мог выпіць ці цалавацца з Распуціным ці з кім яшчэ.

### Станіслаў Шушкевіч

Станіслаў Шушкевіч не падыходзіць. Два разы, як вядома, у адну і тую ж раку не ўвойдзеш. Была магчымасць усё зрабіць як след. Але не выкарыстаў, не падрыхтаваў сабе мацнейшыя пазіцыі. Але ледзеў, не зб'ярог. Хто ж яму другі раз дасць магчымасць? Асабіста я - не. Хай пакуль дабудоўвае лецішча і піша вершыкі. Потым, калі будуць выбары ў парламент, тады хай вылучаецца. А пакуль - не.

### Сямён Шарэцкі

Сямён Шарэцкі таксама не падыходзіць - слабы на галаву. Усё прымае без аніякіх хітрыкаў. Далей сённяшняга дня нічога не бачыць. Можа запрасіць якоганебудзь прыхадня ў дарадцы ці ў госці. Назаўтра можам прачнуцца ў зусім іншай краіне (паздымае дзяржаўныя сімвалы і павывешвае новыя). Ён - добры кандыдат толькі для вельмі вузкага кола савецкіх людзей.

### Валера Леванеўскі

Валера Леванеўскі - таксама не падарунак. Кажа, каб «кадры» нікога і нічога не баяліся, а чакалі толькі яго. Калі ж ён пачне гэтымі «кадрамі» кіраваць, то ўсё будзе «о'k». Насельніцтву патрэбныя не «чарка і шкварка», а болей шарыкаў і цукерак. Ён навучыць усіх гандляваць (а з нас кожны, у прынцыпе, гандляр). У каго лепей гэта будзе атрымоўвацца - гэта будзе іх краіна, а ў каго горай - не іх.

### Мячыслаў Грыб

Мячыслаў Грыб на цяперашні момант таксама не падыходзіць. Для яго асобы пасада прэзідэнта з паўнамоцтвамі па лукашэнкаўскай канстытуцыі - гэта вадародная бомба ў дзіцячых руках. Кажуць, што ў Малдове не могуць знайсці кандыдатуру на пасаду прэзідэнта. Дык вось там ён змог бы паўдзельнічаць у конкурсе.

### Мікалай Статкевіч

Не падыходзіць і Мікалай Статкевіч. Не гнуткі чалавек, не дыпламат. Усё прэ напралом. З ім цяжка дамовіцца. А дамаўляцца яшчэ як патрэбна цяпер і ў будучыні. Не, не падыходзіць.

### Міхаіл Чыгір

Чыгір таксама не падыходзіць. Ну, падтрымаем мы яго. І што? На самой справе кіраваць краінай будзе ягоная жонка - Чыгірыха. А з кабетамі ведаеце, як цяжка будзе спрацавацца мужыкам. Пакусае яшчэ каго ў ААН ці АБСЕ! Не. Тут патрэбны чалавек з якасцямі Геракла. За столькі гадоўназбіралася столькі гною і бруду, што кабета з такою цяжкую справу не адолее.

### Аляксандр Лукашэнка

Аляксандр Лукашэнка ўжо дакіраваўся. Яму так спадабалася, што ён страціў адчуванне часу і месца. Кажуць, што нешта падобнае адчувае наркаман, калі прыме дозу. Усё гайсае дзесьці па Усходзе Блізкім і Далёкім. Як бы халеры якой нам не падкінуў. Усё адчайна, як у нейкім кашмарным сне, спрабуе сфармаваць вакол сябе каманду. Але час ягоны ўжо даўно мінуў. У мінулых адбыцца выбарах ён не павінен удзельнічаць зусім. Калі сыйдзе добраахвотна - захавае яшчэ абліччa перад сваімі нашчадкамі і народам.

### Анатоль Лябедзька, Вінцук Вячорка, Андрэй Саннікаў

Анатоль Лябедзька, Вінцук Вячорка, Андрэй Саннікаў ды іншыя. Хто будзе тады ездзіць на Захад па крэдыты ды інвестыцыі? Хто будзе лямантаваць на увесь свет: «Беларусь, дзе-е-е вы-ы-ы! Едзьце дахаты і вязіце з сабою мяшкі бакса-а-а-ў!». Не, гэтыя хлопцы на сваім месцы і чапаць іх не трэба.

### Дык хто?

Хто там яшчэ застаўся? А, камунякі, ачышчэнцы, саборцы, інтэгратары ды іншыя. Для іх накірунак вядомы - на усход. Не ў сэнсе на Калыму, а ў Маскву. Нафту, газ, крэдыты - усё гэта для Беларусі таксама трэба будзе «по старой дружбе» выбіваць. Карацей, ім работа заўсёды знойдзецца (ім грошай не трэба - работу давай!).

Ну і хто ж у выніку застаўся? (Заўвага: патрабаванні да кандыдата паводле Алеся Чобата):

- яму 40-50 гадоў;
- беларус (тут нарадзіўся, тут жыў, усе сваякі тутэйшыя);
- праваслаўны, толькі ў меру;
- не русафоб, не «фашыст» і не «нацыяналіст» (ну, паразмаўляе там на роднай мове... «если надо!»);
- вышэйшая адукацыя, толькі ніякіх кандыдацкіх ці доктарскіх тытулаў, тым больш кніг і публікацыяў;
- «гаспадарнік» і добры адміністратар («всегда помогал людям» і г.д.);
- спакойны па характары;
- просты на выгляд, сямейны, здаровы і г.д.;
- з простым для запамінання прозвішчам (канчаткі на «-оў» і на «-ін» не спадабаюцца «западникам», а канчаткі на «-іч» і на «-скі» - «восточникам»;
- абавязкова не «вясковы дзядзька», але пажадана, каб не менчук.

### Сямён Домаш

Ну хто-о-о??!! Правільна! Гэта Сямён Домаш. Прозвішча ад словаў дом, дамавіты, дамашні. Ну, пісаў ён трохі ў газеты. Але ж гэта так, каб не развучыцца зусім пісаць. Гэта яму можна прабачыць. Карацей, трэба біць чалом да яго і запрашаць «на царства». Дасць згоду - тады забяспечыць асабістую ахову ці адразу вывезці ў Польшчу ці ў Чэхію. Падалей ад галаварэзаў.

Ну, а тут каманда павінна дзейнічаць. У век Інтэрнэту, тэлебачання, тэлефона, радыё кожны яго зможа ўбачыць і паразмаўляць. Ну што? Згода? Тады за справу!

**Мікалай Яўсей**


Партрэт будучага прэзідэнта?

# Міхаіл Чыгір: «Перада мной няма перашкодаў»

**5 снежня судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда Беларусі адмяніла прыгавор гарадскога суда Менска ад 19 траўня дачыненні да былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра. Справа накіравана на новае расследаванне генеральнаму пракурору рэспублікі.**

Нагадаем, што Чыгір быў прыгавораны гарадскім судом да 3 гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прыгавору на 2 гады і пазбаўленнем права на працу 5 гадоў займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых функцый.

Пасля сённяшняга пасяджэння судовай калегіі Міхаіл Чыгір заявіў журналістам, што разгляд справы ў судзе паказаў: следчыя органы і пракуратура вялі расследаванне прадузята, паколькі па большасці эпізодаў, якія фігуравалі ў абвінаваўчым заключэнні, ён быў апраўданы. Чыгір не думае, што дзеянні пракуратуры на чале з новым генеральным пракурорам у дачыненні да яго будуць больш жорсткімі, чым раней. «На сённяшні дзень склалася такая сітуацыя, што перада мной няма перашкодаў для ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах», - сказаў былы прэм'ер. Ён заявіў, што будзе рабіць усё магчымае для ўдзелу ў выбарчай кампаніі, а таксама паведаміў, што ў бліжэйшы час будзе разгорнута дзейнасць па стварэнні рэгіянальных аддзяленняў яго перадвыбарнага штаба.

Міхаіл Чыгір не выключае, што, улічваючы гэта, следчыя органы паспяшаюцца сабраць дадатковыя дакументы і матэрыялы, каб зноў перадаць справу ў суд і вынесці яму абвінаўчы прыгавор. «Але ў іх для гэтага занадта мала часу», - лічыць Чыгір. Ён таксама нагадаў, што Следчы камітэт пры МУС працягвае расследаванне па двух эпізодах, звязаных з будаўніцтвам яго дома ў пасёлку Прымор'е пад Менскам і з выплатай ім падаткаў падчас работы ў прадстаўніцтве нямецкай фірмы «Гея» ў Маскве. Аднак былы прэм'ер лічыць, што гэтыя эпізоды не маюць судовай перспектывы. Міхаіл Чыгір заявіў, што задаволены рашэннем Вярхоўнага суда. «Суддзі дзейнічалі згодна з законам, сваім вопытам і сваёй інтуіцыяй», - сказаў ён.

**Генадзь Барбарыч**

# Аляксандр Лукашэнка ўзмацняе «органы»

**Лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька расцэньвае выступленне Аляксандра Лукашэнкі перад кіруючым складам КГБ 28 лістапада як «публічную прэзентацыю плана сілавога ўтрымання захопленай незаконным шляхам улады».**

А. Лукашэнка заявіў гэбістам, што ў выпадку спробы апазіцыі дэстабілізаваць сітуацыю ў краіне напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў улада будзе дзейнічаць «яшчэ больш жорстка, чым раней», і запатрабаваў ад КГБ «стварыць жорсткі контрразведвальны рэжым знаходжання замежных дыпламатаў у краіне». Як лічыць Анатоль Лябедзька, «Лукашэнка недвухсэнсава даў зразумець, што напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў робіць стаўку на прымяненне сілы і рэпрэсій». «Падобныя высновы можа дазволіць сабе дзвараву хуліган, член экстрэмісцкай групоўкі, але не высокапастаўлены дзяржаўны дзеяч», - заявіў лідар партыі.

**Юрый Пацёмкін**

# Пазьняк лічыць, што Масква ліквідуе і Лукашэнку. Але апошнім

**Кіраўнік Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ Зянон Пазьняк выступіў са зваротам у сувязі з апошнімі кадравымі перастаноўкамі ў кіраўніцтве Беларусі. Паводле яго слоў, цяпер ва «урадзе Лукашэнкі не засталося ніводнага беларуса». На думку Пазьняка, кадравая чыстка ў Беларусі мае выключна этнічны характар і стала магчымай у выніку нацыянальнай неразвітасці беларускіх кіруючых эліт.**

Ён сцвярджае, што рэальных прэзідэнцкіх выбараў пры цяперашніх умовах у Беларусі не адбудзецца - гэта будзе звычайная прафанацыя. «Мне даводзілася і раней папярэджваць, што пасля захопу ўлады ў Беларусі рускімі спецслужбамі з беларускіх органаў кіравання будуць паступова выводзіцца (а пазней - знішчаны) усе беларусы - у тым ліку і Шэйман, і Мацкевіч, і Антановіч, і Пашкевіч, і Мясніковіч, і іншыя. Апошнім Масква ліквідуе Лукашэнку. Для гэтага сярод раней выдаленых будуць рыхтаваць свайго Каштуніцу», - гаворыцца ў пасланні лідэра Кансерватыўна-хрысціянскай партыі - БНФ. Паводле слоў Пазьняка, «беларусы павінны зразумець, што з 27 лістапада ў Беларусі кіруе поўнасцю расійскі акупацыйны ўрад, які цалкам складаецца з расіян, расійскіх генералаў і функцыянераў ФСБ... Масква праводзіць унікальную і паспяховую вайну супраць Беларусі, акупіруючы краіну без адзінага выстралу».

Спадар Пазьняк лічыць, што першым крокам па прадухіленню ліквідацыі дзяржаўнасці Беларусі і «спыненню разбуральнага ўплыву расійска-нямецкай дыпламатыі» павінна стаць стварэнне і зацвярджэнне Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання законнага беларускага ўрада, да чаго таксама заклікаў Сямён Шарэцкі.

**Генадзь Барбарыч**

# Шведы патрабуюць знайсці зніклых беларусаў

**У Швецыі праводзіцца збор подпісаў пад зваротам да А.Лукашэнкі з патрабаваннем расследаваць абставіны знікнення шэрагу беларускіх грамадзян Менск.**

Як паведамляе грамадзянская ініцыятыва «Хартыя'97», гэтаму папярэднічала трансляцыя па шведскаму тэлебачанню TV2 дакументальнага фільма «Дикая охота» Паўла Шарамета, а таксама публікацыя адпаведных артыкулаў у мясцовай прэсе. У звароце адзначаецца, што дэпутаты парламента Швецыі занепакоены фактамі знікнення ў Беларусі тэлеаператара Дзмітрыя Завадскага, палітыка Віктара Ганчара, бізнесмена Анатоля Красоўскага і былога міністра ўнутраных спраў Беларусі Юрыя Захаранкі. «Мы звяртаемся да Вас, прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, з патрабаваннем правесці дакладнае расследаванне сітуацыі вакол гэтых знікненняў у надзеі, што гэта дапаможа вызначыць лёс тых, хто знік без вестак», - гаворыцца ў звароце шведскіх парламентарыяў.

**Юрый Пацёмкін**

# Беларусы Беласточчыны пратэстуюць

**14 арганізацыяў Беларускай меншасьці й праваслаўныя таварыствы Польшчы распаўсюдзілі зварот, дзе сьведчаць, што Беларусы і праваслаўныя вернікі на Беласточчыне дыскрымінуюцца мясцовымі й цэнтральнымі ўладамі Польшчы. Зварот быў скіраваны да прэзідэнта, прэм'ера, маршалкаў Сэйму і Сэнату Рэспублікі Польшча, у Хэльсінкскі Камітэт, Камітэт Эўрапэйскай інтэграцыі ды ў Эўрапэйскую камісію супраць расізму і неталеранцыі.**

Падпісанты, сярод якіх найбольш вядомыя, Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства, Беларускі Саюз у Польшчы, Брацтва Праваслаўнай моладзі, а таксама дэпутаты парламанту Ян Сычэўскі, Сяргей Плева ды мясцовыя і ваяводзкія праваслаўныя радныя ўпэўненыя, што беларуская меншасьць і праваслаўныя вернікі на Беласточчыне ёсьць дыскрымінаванымі.

Пасьля гэтае заявы, як паведаміў дэпутат польскага Сэйму, кіраўнік Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства, адзін з падпісантаў ліста Ян Сычэўскі, «у прэсе ўсчаўся вялікі шум. Прадстаўнік падляскага ваяводы назваў гэты зварот дзікай правакацыяй, а прадстаўнік кансэрватыўна-сьвецкіх колаў Польшчы наогул сказаў, што тут не абыйшлося без рукі Аляксандра Лукашэнкі». Яна Сычэўскага вельмі турбуе той факт, што і надалей большасьць каментароў звароту адзначаюцца нахабнасьцю, недалікатнасьцю, пагардай.

У звароце гаворка йдзе літаральна пра наступнае: «Нашу глыбокую занепакоенасьць выклікае рост праяваў дэманстрацыйнай неталеранцыі, правакацыі, ксэнафобіі, вандалізму і парушэньня элемэнтарных прынцыпаў грамадзкага суіснаваньня ў стасунку да меншасьцяў з боку польскай улады, палітычных элітаў, Рымска-каталіцкага касьцёлу, і некаторых грамадзянаў».

Нягледзячы на досыць рэзкія выразы, **Ян Сычэўскі** ня лічыць зварот жорсткім:

- Адносіны і працэсы, пра якія мы гаворым, яшчэ больш жорсткія. Калі, напрыклад, прадстаўнік каталіцкага арцыбіскупа гаворыць, што Беласточчына - гэта бядота, п'янства і праваслаўе, і гэтага апошняга маем замнога, дык пра што мы маем гаварыць. Гэта што, нашыя фармулёўкі зажорсткія ў адносінах да такіх сьцьверджаньняў? Гэта, здаецца, і так вельмі далікатна.

Узгадваецца ў звароце і ліст ксяндза Яна Ўрублеўскага дырэктару беластоцкага аддзелу тэлевізіі, дзе ксёндз абвінавачвае апошняга ў надаваньні перавагаў праваслаўнай тэматыцы за кошт каталіцкай.

Непакоіць аўтараў ліста таксама і той факт, што за апошнія колькі год на Беласточчыне пры нявысьветленых абставінах згарэлі некалькі праваслаўных цэркваў.

Падляская ваявода **Крыстына Лукашук**, як зазначаецца ў звароце, «сістэматычна адмаўляе ў якой-кольвек дапамозе беларускім культурніцкім арганізацыям, а таксама Беларускаму музэю ў Бельску Падляскім». Без адказу мясцовых уладаў, упраўленьня адукацыі й дырэкцыі беластоцкіх школаў, засталася просьба наконт стварэньня магчымасьцяў сьвяткаваньня ў школах праваслаўных сьвятаў паводле юліянскага календара.

Прыкладам дыскрымінацыі на дзяржаўным узроўні з'яўляецца непрыняцьце закону аб нацыянальных меншасьцях і значнае зьмяншэньне дзяржаўных выдаткаў на культуру нацыянальных меншасьцяў. Калі ў бягучым годзе Польшча на нацыянальныя меншасьці выдаткавала 5 мільёнаў 100 тысячаў польскіх злотых, дык на наступны запланавана толькі 3 мільёны 700.

Беларусы Польшчы разаслалі зварот у разнастайныя міжнародныя арганізацыі й уладныя структуры Рэспублікі Польшчы, аднак асаблівага спадзяваньня на станоўчыя зьмены ў нашых суайчыньнікаў за мяжою няма:

- У гэтым звароце мы просім пра тое, каб да нацыянальных меншасьцяў, да беларусаў і праваслаўных ставіліся так, як гэта прынята ў дэмакратычнай дзяржаве, і хацелі б вельмі, каб так было. Усёж такі мушу сказаць, як дэпутат Сэйму, я не спадзяюся на гэта. Таму што няма добрае волі - ні з боку ўладаў цэнтральных, ані з боку ўладаў рэгіянальных. Мы ім зусім чужыя. Я б сказаў - ворагі, - зазначыў Ян Сычэўскі.

Зварот 14-ці беларускіх і праваслаўных арганізацыяў Польшчы адразу выклікаў вялікую цікавасьць у польскай прэсе. Яго называюць ня йнакш, як «ліст 14-ці». Аднак камэнтары зьдзіўляюць сваёй аднабаковасьцю. Складваецца ўражаньне, што польскае грамадзтва ня бачыць альбо ня хоча бачыць праблемаў нацыянальных меншасьцяў у сваёй краіне.

Прэсавы сакратар Падляскага ваяводы **Тамаш Сурыновіч** зазначыў польскаму прэсаваму агентству, што «ліст мае дэмагагічны характар і не зьмяшчае аніякіх фактаў».

**Адам Суша** піша ў Kurier Poranny: «...адна з найгоршых рэчаў, якая можа здарыцца ў Падляскім ваяводзтве, гэта спроба зарабіць палітычны капітал на распачынаньні нацыянальных сваркі. А такім ёсьць першы выник скаргі 14-ці арганізацыяў беларускай і праваслаўнай меншасьці».

**Па каментар да гэтых ды іншых выказваньняў у польскай прэсе, я зьвярнуўся да старшыні Беларускага Саюза ў Польшчы Яўгена Вапы, які таксама падпісаў гэты зварот. Яўген Вапа зазначыў:**

- Калі я чую гэткія выказваньні, дык для мяне ўсе ідэі пабудовы нейкіх супольных кашто ўнасьцяў, пабудовы дыялёгу ў грамадзтве разыходзяцца з сэнсам. Ніхто на гэтым палітычнага капіталу зьбіраць ня хоча. Падпісантамі гэтага ліста ёсьць людзі розных меркаваньняў, розных палітычных накірункаў, заангажаваны ў гэта ёсьць аўтарытэт арганізацыяў царкоўных. Гэта ніякая не палітычная акцыя. Проста мы хочам паказаць, што беларусы Польшчы хочуць быць партнэрамі ў справе вырашэньня супольных справаў на Беласточчыне.

*- Ці адпавядае гэты зварот, падпісаны лідарамі арганізацыяў, агульным настроям беларусаў Беласточчыны?*

- Людзі, якія падпісалі гэты ліст кансультаваліся ў сваіх арганізацыях і ў сваім асяродзьдзі. І гэтыя подпісы ёсьць знакам таго, што арганізацыі й іх лідары так думаюць.

*- Язэп Мазалеўскі, дэпутат і старшыня Падляскай Акцыі Вы-барчай Салідарнасьць сказаў, што добра было б, каб меншасьць Падляшша падтрымала польскую меншасьць у Беларусі, бо яна мае менш правоў, чым беларусы ў Польшчы.*

- Чарговы раз бярэцца разгляд нацыянальных меншасьцяў у якасьці закладнікаў адной ці другой дзяржавы. І гэта абсалютна не да ўспрыняцьця. Мы ёсьць грамадзянамі Польшчы і карыстаемся ўсімі тымі законамі, якія маем як грамадзяне польскай дзяржавы. А канстытуцыйна нам, як і ўсім грамадзянам Польшчы, дазваляецца ў форме звароту, ліста зьвяртацца да ўладаў Польшчы.

***- Вядома, што беларускія арганізацыі Польшчы ня маюць унутранага аддзінства. Падпісаньне ліста сталася толькі трэцяй сумеснай акцыяй за апошнія 10 гадоў. Я лічу, што для гэтага патрэбная нейкая надзвычайная сытуацыя.***

- Правільна, бо гэтая справа робіцца не ў кантэксьце пэўных палітычных дзеяньняў, нейкіх стасункаў, нейкіх плыняў. І гэта яшчэ раз падкрэсьліваю. Гэта ёсьць проста справа людзей, што заангажаваныя ў розныя напрамкі дзейнасьці, што гэта агульная праблема беларусаў Польшчы.

30 лістапада на заяву 14-ці арганізацыяў беларускай нацыянальнай меншасьці ў Польшчы ад імя Рэчы Паспалітай Польшчы адрэагаваў і віцэ-дырэктар Бюро Інфармацыі й Грамадзкай Камунікацыі Канцыляры РП **Анджэй Міклашэвіч**. Ён, у прыватнасьці, заявіў, што «Прэзыдэнт Рэчы Паспалітай Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі надае вялікую вагу праблемам нацыянальных меншасьцяў у Польшчы, з незвычайнай увагай пазнаёміўся з вышэйзгаданым лістом.

Прэзыдэнт РП супраць усіх праяваў нецалерантнасьці ў адносінах да нацыянальных і рэлігійных меншасьцяў. Ахоўваючы Канстытуцыю Рэчы Паспалітай як падмурак дзяржавы і права, Прэзыдэнт РП шматкратна падкрэсьліваў вялікае значэньне канстытуцыйнага запісу, што «ніхто не можа быць дыскрымінаваны ў палітычным, грамадзкім ці эканамічным зь якой-кольвечы прычыны». Польскі народ, прымаючы на рэферэндуме Ustawe Zasadnicza, абавязаўся забясьпечыць «польскім грамадзянам, якія належаць да нацыянальных і этнічных меншасьцяў, свабоду захаваньня й разьвіцьця ўласнай мовы, захаваньня звычаяў і традыцыяў, а таксама разьвіцьця ўласнай культуры», адначасна нацыянальным меншасьцям - «права на ўтварэньне ўласных установаў адукацыі, культуры, якія ахоўваюць іх рэлігійную прыналежнасьць, а таксама на ўдзел у вырашэньні справаў, якія тычацца іх культурнай прыналежнасьці».

У сувязі з вышэйзгаданым лістом, зь якога вынікае, што можа мець месца парушэньне канстытуцыйных правоў, прэзыдэнт Аляксандр Квасьнеўскі загадаў, як найхутчэй вывучыць справы праваслаўнай грамадзкасьці й нацыянальных меншасьцяў на тэрыторыі Беласточчыны, а таксама неадкладна інфармаваць яго аб выніках. Пасля знаёмства з імі прэзыдэнт РП прыме далейшыя патрэбныя дзеяньні».

**Павал Мажэйка**

# Хто ўзяў грэх на душу?

**Увечары ў апошні дзень восені з цэнтра Гродна знік чатырохмятровы крыж, устаноўлены невядомымі ў ноч на 29 лістапада на месцы Фары Вітаўта (у скверы на Савецкай плошчы). Менавіта ў гэтую ноч у 1961 годзе найстаражытнейшы гарадзенскі касцёл быў узарваны камуністычнымі ўладамі (гл. ПАГОНЮ ад 30 лістапада г.г.). Толькі праз 39 гадоў на месцы святыні з'явіўся помнік. У прысутнасці сотні вернікаў ён быў асвечаны каталіцкім святаром. А на наступны дзень крыж скралі, пакінуўшы на зямлі толькі кветкі і свечкі, прынесеныя гарадзенцамі.**



**З гэтага месца быў употай выкапаны крыж, пастаўлены вернікамі на месцы ўзарванай Фары Вітаўта**

ПАГОНЯ правяла ўласнае расследаванне факта знішчэння крыжа. Напачатку мы вырашылі, што да гэтай справы мог мець дачыненне ЖЭС-5, які абслугоўвае гэтую тэрыторыю горада. Аднак у ЖЭСе паведамілі, што іхнія супрацоўнікі ўначы спяць, і выказалі думку, што выкапаць крыж маглі сатаністы ці хуліганы.

Тады ПАГОНЯ звярнулася ў спецаўтагаспадарку камунальнай службы горада. Галоўны інжынер Аляксандр Жаркоў сказаў, што гэтая арганізацыя адказвае толькі за смецце ва дварах. Вуліцы горада яны не прыбіраюць. Такім чынам, засталася апошняя ўстанова камунальнай гаспадаркі, якая магла мець дачыненне да выкопвання крыжа - гарадзенскае дарожна-будаўнічае прадпрыемства (ДЭП).

Ягоны начальнік Эдуард Бекер адразу раздражнёна пацікавіўся, чаму ўсе палююць за гэтым крыжам.

- Было распараджэнне выканкама, установка крыжа несанкцыянаваная, каталікі заявілі, што гэта не іхні крыж. А кім і калі крыж быў адкапаны - гэта іншае пытанне, - паведаміў спадар Эдуард і паклаў трубку.

Віктар Жалезняковіч (які адказвае ў гарвыканкаме за інфармаванне грамадства) на пытанне ПАГОНІ «хто зняў крыж і на якіх падставах?» адказаў пытаннем:

- А на якіх падставах ён пастаўлены? Трэба такія рэчы ўзгадняць з архітэктурай... А ўвогуле я не магу адказваць на гэтае пытанне.

- А чаму? Ці гэта сакрэт?

- Па тэлефоне адказваць не буду, - скорагаворкай паведаміў Жалезняковіч і скончыў размову.

Чаму гарадзенскія чыноўнікі ўзвялі свае дзеянні, якія не супярэчаць заканадаўству, у катэгорыю таямніцы мясцовага маштабу? Ці не таму, што падсвядома ўсведамляюць, што ўзялі на душу вялікі грэх. Грэх знішчэння хрысціянскіх сімвалаў. Сталі пераемнікамі дзікуноў, якія ўзарвалі Фару Вітаўта амаль 40 гадоў таму. Гісторыя паўтараецца ў выглядзе фарсу.

Ініцыятыўныя гарадзенцы ужо набралі больш за 200 подпісаў пад лістом Анатолю Пашкевічу з просьбай дазволіць усталяванне крыжа. Але, відаць, помнікі знішчанай святыні мазоляць вочы чыноўнікам гэтак сама, як і Фара Вітаўта калісьці перашкаджала тагачасным уладам.

**Сяргей Самасей, Юлія Дарашкевіч**

**Па просьбе ПАГОНІ падзеі, звязаныя з устаноўкай і выкопваннем крыжа, пракаментаваў біскуп Антоній Дзямянка.**

**Тое месца, дзе ўзвышалася Фара Вітаўта, для нас, каталікоў, - дарагое. На тым месцы ў Фары прымалі хрост нашыя продкі. Тут карані касцёла на Гарадзеншчыне. Напэўна, разумеў гэта і тыя, хто спачатку зачыняў, а потым і знішчыў святыню. Лічу, што не толькі крыж на тым месцы павінен быць пастаўлены, але і адбудавана святыня, якую узарвалі ў 1961 годзе.**

**Хаця крыж і не быў пастаўлены на месцы ўзарванай Фары Вітаўта з ініцыятывы касцельнага камітэта нашай парафіі, мне вельмі крыўдна, што крыж быў прыбраны з санкцыі выканкама. Трэба пастарацца атрымаць дазвол. Лічу, што гэта трэба зрабіць як мага хутчэй. На працягу апошніх дзесяці гадоў намаганнямі каталікоў было адбудавана шмат святыняў, якія былі знішчаныя атэістамі ў папярэднія часы. Былі збудаваныя новыя касцёлы. Калі кожны з нас, каталікоў Гродна, прыкладзе намаганні, маю надзею, што святыня паўстане на старым месцы ў хуткім часе.**

# Саюз палякаў – за супрацоўніцтва

**Саюз палякаў на Беларусі (СПБ) гатовы да канструктыўнага дыялога як з уладамі, так і з апазіцыяй. Пра гэта заявіў новы кіраўнік арганізацыі Тадэвуш Кручкоўскі, абраны старшынёй гэтага грамадскага аб'яднання на V з'ездзе СПБ, які прайшоў 18-19 лістапада.**

- Наша стаўленне да улад і апазіцыі будзе залежыць ад іх стаўлення да правоў палякаў як нацыянальнай меншасці, - сказаў Тадэвуш Кручкоўскі. Ён адзначыў, што Саюз палякаў на Беларусі, які з'яўляецца арганізацыяй грамадска-культурнай, а не палітычнай, павінен займацца пытаннямі асветы і адраджэння традыцый польскай нацыянальнай культуры. Разам з тым, паводле ягоных слоў, кіраўніцтва СПБ крытычна ставіцца да некаторых заяў улад, а таксама той часткі апазіцыі, якая адмаўляе існаванне ў Беларусі польскай нацыянальнай меншасці, сцвярджаючы, што ў краіне жывуць толькі беларусы-каталікі.

**Марат Гаравы**

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

Уцэплены вагончык на колах на базе МАЗаўскага прычэпа. Магчыма пераабсталяванне для грузаў. Паслугі пасярэднікаў аплочваюцца. Звяртацца да Дзедуль на адрас: 231100, г.Ашмяны, вул.Аўдзеева,39.

Капот да аўтамабіля «Ford Sierra», чорна-белы тэлевізар «Электрон». Вельмі танна. Тэл. 2-65-60.

Магнітафон «Sony-CD», узмацняльнік. Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

Узмацняльнік «Гармонія», прымочкі, гітары. Тэл. 44-02-84, 2-02-94.

Камп'ютар. Тэл. 72-29-96 (акрамя серады і выхадных - з 10.00 да 18.00) ці 44-69-03 (штодзень, пасля 19.00).

4-пакаёвы дом (фінскі) у 30 км ад горада, ёсць 0,3 гектара зямлі. Тэл. 5-51-60.

4-пакаёвую кватэру ў г.п.Рось (пяты паверх). Тэл. (8-212) 3-21-89.

Прыватызаваны пакой альбо мяняю на кватэру. Тэл. 2-03-39. Набор мяккай мэблі: два крэслы-ложкі, канапа-ложак. Можна паасобку. Тэл. 76-19-29.

Два паўтарачныя (1,5) ложкі, б/у, у добрым стане. Тэл. 2-03-92 (пасля 18.00).

**Дробную бульбу. Тэл. 72-59-38.**

Новыя боты хромавыя (памер 43), халадзільнік «Ладага-4». Тэл. 47-20-83 (з 9.00 да 17.00).

Новую пральную машыну «Мара», тэлевізар «Таўрас» (б/у) з новым кінескопам 61-ЛК-4Б-2 (можна толькі кінескоп). Тэл. 2-23-07.

Тэлевізар «Гарызонт-206». Кошт 8 у.а. Тэл. 2-65-60.

Электрагітару. Тэл. 31-49-19.

## КУПЛЮ

Відэакасету «Арыстакраты акіянаў» і руска-літоўскі слоўнік. Тэл. 76-63-04 (пасля 15.00).

Гульнёвую прыстаўку «Sony Play Station», б/у. Тэл. 2-69-92.

Машыну чарназёму альбо торфу з дастаўкай. Тэл. 72-70-60.

Месца пад гараж. Тэл. 6-88-85.

Настольную лямпу. Танна. Тэл. прац. 72-29-96 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных, запрасіць Святлану).

Сухую неабразную дошку (таўшчыня - 50 мм); пярэднія крылы да «Волгі ГАЗ-24». Тэл. 74-11-38.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Старыя піўныя бутэлькі з надпісамі на шкле. Тэл. 75-33-55.

## МЯНЯЮ

1-пакаёвую кватэру ў Віцебску (2-і паверх цаглянага дома на Маркаўшчыне) на 1-пакаёвую ў Паставах, Мядзелі ці Нарачы. Тэл. у Паставах 2-34-59.

## ПАСЛУГІ

Кансультацыі, кантрольныя работы па філасофіі і праву. Тэл. 47-32-70.

Дасведчаны настаўнік пачатковых класаў дапаможа падрыхтаваць хатнія заданні. Рэпетытарства. Тэл. 76-41-09.

Распрацоўка праграмаў, усталёўка Windows ды інш.; рэпетытарства па камп'ютары. Тэл. 74-02-31.

Урокі класічнай ігры на гітары на аснове сціслага вывучэння элементарнай тэорыі музыкі і музычнай гармоніі. Тэл. 72-16-55.

Камп'ютарны набор, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

Рэпетытарства па ангельскай мове. Дасведчаны высокакваліфікаваны педагог. Тэл. 72-62-79.

Набор тэкстаў, курсавых на камп'ютары. Раздрукоўка. Тэл. 44-70-03 (запрасіць Андрэя).

Польская, ангельская і балгарская мовы: пераклады, індывідуальныя заняткі. Тэл. 2-85-77, 33-09-39.

Ангельская мова: афармленне дакументацыі, анкетаў, пераклады. Тэл. 31-15-83 (запрасіць Аляксандра).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліцэнзія N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Рэпетытарства па ангельскай і нямецкай мовах. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).

Ангельская мова для ўсіх. Тэл. 76-38-02.

Дапамагу ў выкананні задачаў, кантрольных, курсавых і дыпломных работаў па любых будаўнічых канструкцыях, супраціўленню матэрыялаў, тэарэтычнай тэхнічнай ды будаўнічай механіцы. Тэл. 72-16-55.

Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Усё па беларускай, ангельскай і лацінскай мовах. Тэл. 33-21-83.

Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Рэпетытарства па хіміі, біялогіі. Тэл. 31-50-27.

Набор тэкстаў на камп'ютары, сканаванне, раздрукоўка на матрычным прынтары. Тэл. 76-55-16.

Ангельская мова: пераклады і кантрольныя работы. Хутка і якасна. Тэл. 31-15-83.

Дапамагу набраць вагу ці пазбавіцца лішняе вагі і цэлюліту. Бясплатныя кансультацыі і асабістае лячэнне. Сертыф.пасведчанне N0833011992 МЗ РБ. Тэл. 31-52-42.

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

**Доктар С.Каляда**
Інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 23 сакавіка 2004 г., МЗ РБ.

Відэаздымка. Якасна, прафесійна выканаем работы па стварэнні відэафільма, відэакліпа, рэкламнага роліка. Ліцэнзія N613, выдадзеная МК да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Звяртацца: 231900, Гарадзенская вобласць, г.Ваўкавыск, а/с 17. Тэл. 2-34-86.

## РОЗНАЕ

Здыму кватэру (кошт да 30 у.а.). Тэл. 2-03-39.

Шукаю працу на прадпрыемстве па рамонту і зборцы мэблі. Тэл. 44-39-15.

Прапішу двох чалавек. Тэл. 6-83-19.

Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41.

Здыму 1-пакаёвую кватэру з тэлефонам і мэбляй на адзін месяц. Тэл. 5-33-58 (запрасіць Святлану).

Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-70.

Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі, па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

Ахвотныя атрымаць кнігу Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае», калі ласка, дашліце замову, свой паштовы адрас і 2300 рублёў на адрас: 220131, Менск-131, п/с 268 (Алесю Міхайлавічу Сабаленку). Кнігу атрымаеце праз пошту. У Менску кнігу Міколы Ермаловіча можна набыць у сядзібе ТБМ, што месціцца ў Менску па вуліцы Румянцава,13. Тэл. 284-85-11.

Шукаю працу бухгалтара на прадпрыемстве. Досвед працы - сем гадоў, маю вышэйшую адукацыю, умею працаваць на камп'ютары. Тэл. 91-93-68 (з 9.00 да 12.00).

Замаўляйце і чытайце «Голас Краю» - газету беларускіх нацыяналістаў. Звяртайцеся на адрас: 230003, г.Гродна, а/с 100.

Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам. Гэта дасць усе падставы меркаваць, што абвесткі наконт знаёмстваў належаць менавіта вам, паважаныя чытачы, а не тым, хто жадае з вас пажартаваць.

## ЗНАЁМСТВЫ

Мужчына, 33/170, пазнаёміцца з дзяўчынай (жанчынай) для сур'ёзных адносінаў. Пісаць: 230029, г.Гродна-29, прад'яўніку дакумента НБ N2455415.

Прывабная жанчына пазнаёміцца з добрым, інтэлігентным мужчынам да 55 гадоў, хрысціянінам, высокага росту. Пісаць: 230009, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніцы пашпарта КН 0117472.

Жанчына, 35/164/60) пазнаёміцца з інтэлегентным мужчынам 35-45 гадоў для align розныабаковых адносінаў. Пісаць: 230025, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніцы дакумента N773666.

Мужчына, 31/174, пазнаёміцца з дзяўчынай (жанчынай) для стварэння сям'і. Пісаць: 230025, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта N556632.

## ВІНШАВАННІ

Сардэчна віншую *Аксану Жаркову* з Днём нараджэння! Жадаю табе не хварэць, каб здзяйсняліся ўсе мары! Кахання, згоды і паразумення ў сям'і!

**Сяброўка Марыя Зубрык**

Віншуем дарагога мужа і тату *Аляксандра Дзенісевіча!* Жадаем здароўя, удачы. Дзякуй за дабрыню і клопат пра нас!

**Жонка і дзеці**

**17 снежня галерэя Тызенгаўза запрашае ў Гудзевіцкі музей.**
**Даведкі па тэлефоне: 72-27-57**



# Каляндарыкі ад ТБМ

**Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны працягвае асвойваць новыя формы работы. У той час, калі дзяржаўныя выдавецтвы не выдалі ніводнага кішэннага беларускамоўнага каляндарыка, яно вымушана было ўзяць гэтую працу на сябе. У лістападзе Таварыства выдала два новыя арыгінальныя беларускамоўныя каляндарыкі на 2001 год.**

Першы прысьвечаны нашаму слыннаму пісьменніку і паэту Уладзіміру Караткевічу. На першым плане - партрэт Уладзіміра Караткевіча, а ўнізе - руіны Гальшанскага замку. Аўтар працы - зямляк Уладзіміра Караткевіча, вядомы мастак Мікола Купава.




Другі каляндарык адлюстраваў нацыянальны беларускі герб «Пагоня». Аўтар Уладзімір Цярохін падкрэсліў неўміручасць нашага старадаўняга герба. Легендарная Пагоня ад сівых Мірскіх муроў сягае ў будучыню - трэцяе тысячагодзьдзе!

Каляндарыкі можна набыць на кніжнай выставе ў сядзібе ТБМ па адрасе: Менск, вуліца Румянцава,13 (каля станцыі метро «Плошча Перамогі»). Час працы выставы: 13.30-19.00 (штодня, апроч нядзелі).



# Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». **Новы замак.** Экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў». Круглая зала. Выстава «Вобразы далёкія і блізкія», прысвечаная 80-годдзю музея.

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** Выстава жывапісу Аляксандра Сільвановіча пад назвай «Крэсла, брама і вандроўка на Захад».

**Галерэя «Тызенгаўз» (пл.Тызенгаўза, 4).** Перадсвяточная выстава-продаж: жывапіс, кераміка, графіка, вышыўка. Уваход свабодны.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Беларуская акадэмія мастацтваў, кафедра «Графічны дызайн, праектаванне выставаў і рэкламы» прадстаўляе выставу «Графічны дызайн».

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Выходныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Канцэртная зала «Гродна».** 8 снежня - Камерны аркестр (Брэст), мастацкі кіраўнік Аляксандр Мартыненка. Пачатак у 19.00.

**Кінатэатр «Усход».** Дэманстрацыя серыяла-бестсэлера па раманах сучаснага пісьменніка Андрэя Канстанцінава «Бандитский Петербург». 7-10 снежня - «Марш Турэцкага». «Забойства на Нягліннай» (III частка); 11-13 снежня - «Адвакат» (IV частка); 14-17 снежня - «Адвакат» (V частка); 18-20 снежня - «Адвакат» (VI частка); 21-24 снежня - «Адвакат» (VII частка). Пачатак сеансаў - 19.00.

**Кінатэатр «Чырвоная зорка».** Рэтраспектыва лепшых фільмаў усіх часоў і народаў: 7 снежня - «Сталкер», 13 снежня - «8 1/2», 14 снежня - «XX стагоддзе». Пачатак у 19.00.

**Моладзевыя дыскатэкі**

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00, працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыпцізшоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

| 46 | Імя і прозвішча ______________ |
|---|---|
| | Адрас (тэлефон) ______________ |
| | Рубрыка ______________ |
| | Тэкст ______________ |

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

# Пакуль людзі чытаюць Максіма Багдановіча, да тае пары будзе Беларусь

**ПАГОНЯ працягвае конкурс па выбарах Чалавека стагоддзя Гарадзеншчыны. Яго ўдзельнікамі становіцца ўсё больш нашых чытачоў. Рэдакцыя запрашае выказаць сваю думку ўсіх, каму неабыякавае наша мінулае, каго турбуе лёс краіны. Сёння разам з гуманітарыямі Чалавека стагоддзя вызначаюць будучыя дактары - і гэта надае нашаму апытанню новы, асаблівы імпульс.**




У штодзённай мітусні мы неяк забываем пра нашу гісторыю, пра асобаў, якія яе стваралі. Апынуўшыся перад пытаннем «хто з'яўляецца Чалавекам ХХ стагоддзя на Гарадзеншчыне?», я з прыемным здзіўленнем адзначыў для сябе, што зрабіць такі выбар няпроста. Па якіх параметрах параўноўваць магутнага волата Якубу Чахоўскага і знакамітую пісьменніцу Элізу Ажэшку, стваральніка мовы эсперанта Людвіка Заменгофа і паэтку Зоську Верас, выдатнейшага навукоўца Яўхіма Карскага і не менш выдатнага празаіка Васіля Быкава? А колькі яшчэ не менеі славутых іменаў звязана з Гарадзеншчынай. І зусім не важна, пражыў на нашай зямлі чалавек усё жыццё ці год-два. Кожнае імгненне пакідае свой адбітак у свядомасці чалавека.

Што ж датычыцца майго выбару Чалавека стагоддзя, то я б спыніўся на Максіме Багдановічу. Менавіта яго паэзія зрабіла сапраўды рэвалюцыйны пераварот у беларускай літаратуры, паказала багацце тэмаў і вобразаў, прыгажосць і напеўнасць беларускага слова. Ведаю сотні прыкладаў, калі чалавек знаёміўся з беларускай мовай і прыходзіў да ўсведамлення сябе як беларуса праз вершы Багдановіча. І пакуль людзі чытаюць яго «Вянок», да тае пары будзе і Беларусь.


Максім Багдановіч

**Віктар Варанец, выкладчык беларускай мовы Гарадзенскага медычнага універсітэта**

**Па просьбе ПАГОНІ спадар Варанец правёў бліц-апытанне сярод студэнтаў медуніверсітэта. Чалавекам стагоддзя Гарадзеншчыны студэнты (было апытана 123 чалавекі) назвалі: Васіля Быкава - 43 чалавекі, Максіма Багдановіча - 35 чалавек, Яўхіма Карскага - 12 чалавек, Элізу Ажэшку - 11 чалавек, Людвіка Заменгофа - 3 чалавекі. Цікава, што 19 апытаных назвалі ўраджэнца Гродна Зіновія Салаўёва, чыё імя носіць першая гарадская бальніца.**

# Таямнічы дагэтуль Сяргей Прытыцкі

**Сярод выбітных дзеячаў Гарадзеншчыны асобае месца займае Сяргей Прытыцкі. Пры ўсёй сваёй зафіксаванай у афіцыйных хроніках і энцыклапедыях вядомасці гэтая фігура дагэтуль захоўвае нешта таямнічае. Яе не прапагандуюць ані дзеючая ўлада, ані апазіцыя. Між тым, Прытыцкі быў не толькі ўдзельнікам важнейшых падзеяў у жыцці нашай краіны, але самым актыўным творцам гісторыі.**

Ён пачаў як камсамольскі актывіст на польскіх Крэсах і хутка ператварыўся ў значную асобу, на якую камуністычнае кіраўніцтва СССР ускладала вялікія спадзяванні, арганізавала для яго спецыяльнае навучанне ў Менску ў сярэдзіне 30-х. Пасля вяртання ў Польшчу далучыўся да падпольных камуністычных структураў, але польская дзяржбяспека наладзіла ў Вільні паказальны працэс супраць камуністаў. Прытыцкі ў зале суда страляў у агента дыфензівы, быў паранены сам. Асуджаны на пакаранне смерцю, але быў памілаваны.

У 1939 годзе ад імя народа Заходняй Беларусі прасіў прыняць яе ў склад БССР. Стаўся лічаным дзеячам КПЗБ, які не быў рэпрэсаваным за часамі СССР. Карыстаўся вялікім аўтарытэтам ў народзе і ў тых, хто з ім працаваў, але разам з тым, за ім цягнуўся шлейф плётак, не абвергнутых дагэтуль.

Біяграфія Сяргея Прытыцкага нераспрацаваная. Ягоны гераізм падобны да гераізму савецкага агента Меркадэра, які забіў Троцкага. Але менавіта яго голас злучыў дзве часткі Беларусі. Таму, пры ўсёй спрэчнасці ягонай асобы, паводле збегу гістарычных падзеяў (якімі кіраваў, безумоўна, не Прытыцкі) цалкам можа прэтэндаваць называцца Чалавека стагоддзя Гарадзеншчыны.

**Сяргей Сноп**

# Чалавекам стагоддзя лічу Васіля Быкава

Васіль Быкаў, Народны пісьменнік Беларусі, які вырас і сфармаваўся як мастак слова на Гарадзеншчыне, - самая магутная ў свеце духоўная постаць сына нашай зямлі. Яго кнігі, перакладзеныя на дзесяткі моваў, чытаюць на ўсіх кантынентах і адкрываюць для сябе наш народ. Ягоныя творы вучаць дабру і чалавечнасці. Пісьменнік вынес прысуд таталітарнаму рэжыму, паказаў яго амаральнасць, абараніў правы чалавечай асобы на жыццё і шчасце, на свой уласны выбар, сцвердзіў несумяшчальнасць усякіх пакутаў і нягодаў з высокім прадвызначэннем жыцця. Ён зрабіў болей, чым палітыкі і вучоныя. Васіль Быкаў - увасабленне грамадзянскага і мастацкага сумлення цэлай эпохі.

**Аляксей Пяткевіч**

**Шаноўныя чытачы! Чакаем вашых лістоў з вызначэннем кандыдата на пачэснае званне «Чалавек стагоддзя Гарадзеншчыны». Нагадваем, што з рэдакцыяй можна звязацца праз паштовы і электронны адрасы.**

**Увага!** Свае прапановы вы можаце даслаць на пэйджар абаненту 95684 (тэлефон 73-00-00) з паметкай «Чалавек стагоддзя»

---



1.Стаянка нёманскай культуры (4-3-га тысячагоддзяў да н.э.) каля вёскі Пескі Мастоўскага раёна. 2.Каралавы востраў у форме кальца. 3.Тканіна з сінтэтычнага валакна, якое сваімі ўласцівасцямі нагадвае воўну. 4.Сцябло і лісце розных агародных раслінаў. 5.Апошні найбольш кароткі ў гісторыі Зямлі геалагічны перыяд, які працягваецца і цяпер. 6.Майстэрства, навука вадзіць караблі. 7.Пераноснае жыллё некаторых народаў Поўначы: круглы шацёр, пакрыты шкурамі аленяў. 8.Вялікае пamяшканне для жывёлы. 9.Тонкія доўгія шчацінкі на каласах некаторых злакаў.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N45 (492)**

1.Атава. 2.Валюта. 3.Місюрка. 4.Альтанка. 5.Бразготка. 6.Мізансцэна. 7.Перавясла. 8.Вярэнька. 9.Барміца. 10.Рулада. 11.Крыца.

# «Лябірынты прывіднага замку»

**Пад такой назвай на мінулым тыдні ў Беластоку выйшла анталогія твораў Гарадзенскага клуба паэтаў. Кнігу выдаў Беларускі саюз у Польшчы дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры і народнай спадчыны Рэспублікі Польшча.**

Пад вельмі прыгожай каляровай вокладкай (мастак Алесь Сураў) змясціліся выбраныя вершы сямі найбольш цікавых і арыгінальных гарадзенскіх паэтаў апошняе дэкады ХХ стагоддзя. Аўтары - Анатоль Брусевіч, Юры Гумянюк, Анжаліна Дабравольская, Васіль Дзівашэвіч, Эдзік Мазько, Юрась Пацюпа і Віктар Шалкевіч. Менавіта гэтыя творцы апошнім часам вельмі ўдала стварылі паэтычны вобраз роднага горада і годна рэпрэзентавалі наднёманскі край не толькі ў Беларусі, але і за мяжою. У зборніку ёсць і кароценькія біяграфіі аўтараў.



Няма сумневу, што атмасфера старадаўняй Гародні паўплывала на кшталтаванне іхняга таленту і стала крыніцай паэтычнага натхнення. Гэта зусім не азначае, быццам «Лябірынты прывіднага замку» - зборнік вершаў на гістарычную тэматыку. Хутчэй наадварот. Анталогія - суквецце не падобных адна на адну сучасных індывідуальнасцяў. Як цэлае, удзельнікі Гарадзенскага клуба паэтаў паводле светапогляду і творчых зацікаўленняў істотна адрозніваюцца ад літаратараў іншых месцаў Беларусі. Нездарма ў прадмове да кнігі ў метафарычнай форме гаворыцца:

«Тут, у Горадні, пачынаецца адліга, калі па ўсёй Беларусі яшчэ стаяць маразы. Тут ідзе дождж, калі па ўсёй Беларусі сонечнае надвор'е. Гэты горад, гэтая туманная выспа, жыве сваім асобным, незалежным ад сталіцы жыццём».

**Ігар Гандлеўскі**

# Гарадзенскі балет у Віцебску

**Днямі ў Віцебску скончыў работу традыцыйны фестываль мадэрн-балета, у рамках якога адбыўся нацыянальны конкурс калектываў з Беларусі.**

Сярод дзесяці камандаў былі і дзве з Гродна: Мадэрн-балет «Галерэя» (Аляксандр Цебянькоў) і «Тад» (Дзмітрый Куракулаў). Абедзве апынуліся ў ліку прызёраў у розных намінацыях. «Тад» здзіўляў віцьбічаў фантазіяй пошуку, Аляксандр Цебянькоў быў прызнаны лепшым пастаноўшчыкам, а Вікторыя Бальцар («Галерэя») - прымай у выканаўчым майстэрстве.

У фестывалі ўзялі ўдзел прызнаныя мадэрн-групы з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Екацярынбурга. Але нашыя, гарадзенскія выканаўцы, зусім не згубіліся на іх фоне.

**Ул.інф.**

## Роднай сястры Ірыне як вяночак роспачы на 40 дзён

*Надарваліся струны душы маёй ліры*
*І заціх на паўслове сумнай роспачы сьпеў...*
*Ўсё жыцьцё я любіў цябе моцна,*
*сястрыца Ірына,*
*Толькі слова «люблю» так*
*сказаць й не пасьпеў.*

*Дзе канец Сьвету? - можа, ў Аульсе...*
*Тут жыцьцёвы канец імкненьня, надзеі і мар.*
*За ўпакой вашых душ у цішы памалюся,*
*Сьвечку роспачы стаўлю на Боскі алтар.*

*Сорак дзён, як сястру маю Іру хавалі,*
*Курганок скрылі кветкі, вянкі пачуцьця.*
*Там далёка ўздымаў ветрык Нёмана хвалі,*
*А я плакаў з усімі, як тое дзіця.*

*Адыйшла ты ад нас, нібы тайна прычына*
*І пакінула жаль, боль у сэрцы і плач...*
*Мая родна сястра, сястрычка Ірына,*
*Мо не так бераглі цябе, просім, прабач.*

*Хаця лёс абышоўся з табою сурова,*
*Працярпела ўсе мукі як бы за ўсіх нас.*
*Ты пакінула мне не пасланьне, а толькі два словы:*
*«Жыві ў роспачы», - быў твой наказ.*

*Ты дарыла нам шчодра мудрасьці перлы,*
*Падавала руку людзям ў цяжкі той час...*
*Велька ўтрата - тваё цела*
*у муках пякельных памерла,*
*А часьцінка душы тваёй цеплiцца*
*ў кожнага з нас.*

*Надарваліся струны душы маёй ліры*
*І заціх на паўслове сумнай роспачы сьпеў...*
*Ўсё жыцьцё я любіў цябе моцна,*
*сястрыца Ірына,*
*Толькі слова «люблю» так сказаць й не пасьпеў.*

**У роспачы,**
**Яўген Петрашэвіч**

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Не адмаўляйце ў падтрымцы тым, каму ў стане дапамагчы. Сачыце за сваім здароўем.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Як толькі заўважыце наспяванне канфлікту са сваякамі, часова звядзіце да мінімуму стасункі з імі.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Калі не будзеце зважаць на фінансавыя перашкоды, адчуеце надзвычайную асалоду ад рамантычных сустрэчаў з каханым(-ай).

♋ **Рак (22.06-22.07).** Перспектыўны тыдзень - дамажэцеся поспеху нават там, дзе раней мелі толькі адныя праблемы.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Вашы цікавыя прапановы на працы будуць надзейным падмуркам новага фінансавага праекта.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Калі прыкладзеце крыху намаганняў і скарыстаецеся кемлівасцю, справы значна палепшацца.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** У адказных справах на гэтым тыдні разлічвайце толькі на ўласныя сілы - ўсё ў Вас атрымаецца.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Адпачынак у вясёлай кампаніі, безумоўна, будзе Вам толькі на карысць. Галоўнае - не перабраць са спіртным.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Гэты тыдзень надзвычай спрыяльны для вырашэння дробных сямейных праблемаў, на якія ў Вас раней не ставала часу.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Зоркі абяцаюць Вам неверагодны поспех на любоўным фронце і ва ўсіх Вашых пачынаннях.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Будзьце ўважлівей да тых, хто з Вамі побач, не давайце зачэпак для сварак.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Прыкладзіце ўсе намаганні, каб Ваша дзелавая актыўнасць не адбілася негатыўным чынам на сям'і.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве "Гродзенская друкарня" Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Замова 3 726 Наклад 7 357 Нумар падпісаны да друку ў 16.00 6.12.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзенаму рэдакцыяй дыяпазітыву. Аб'ём - два ўмоўных друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей